Веснік ПРАВААБАРОНЧЫ
№ 11 [31] 2014 / 11
БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

**АЛЯКСАНДР ВАЙЦЕШЫК ТРАПІЎ НА 2 ДНІ ЗА КРАТЫ**



ЗА ТОЕ, ШТО Ў БУФЕТЧЫЦЫ ПАПРАСІЎ КНІГУ СКАРГАЎ

СТАР. 2

**АЛЕНЕ ТАНКАЧОВАЙ АДНАВІЦЬ ВІД НА ЖЫХАРСТВА**



ТАКАЯ ПАДТРЫМКА АД БАРАНАВІЦКІХ АКТЫВІСТАЎ

СТАР. 3

ПРАВААБАРОНЦЫ

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: «РАШЭННЕ КАМІТЭТА ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА ААН УСПРЫНЯЎ ЯК АСАБІСТУЮ САТЫСФАКЦЫЮ

## Камітэт па правах чалавека ААН прыняў знакавае рашэнне па справе Алеся

Праваабарончы цэнтр "Вясна" публікуе неафіцыйны пераклад рашэння Камітэта па правах чалавека ААН па справе кіраўніка арганізацыі і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага.

Разгледзеўшы індывідуальнае паведамленне па справе Алеся Бяляцкага, Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў, што прысуд праваабаронцы да працяглага тэрміну пазбаўлення волі за дзеянні, звязаныя з атрыманнем і расходаваннем сродкаў на фінансаванне дзейнасці арганізацыі, якую ён узначальвае, быў прамым следствам парушэння свабоды асацыяцыі, і прыцягненне яго да крымінальнай адказнасці расцаніў як парушэнне гэтага права, гарантаванага артыкулам 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Таксама Камітэт прызнаў, што дзяржава Беларусь парушыла правы Алеся Бяляцкага на свабоду і асабістую недатыкальнасць і на справядлівае судовае разбіральніцтва, гарантаваныя адпаведна артыкуламі 9 і 14 МПГПП. У рашэнні Камітэта ўказана, што Алесь Бяляцкі мае права на належныя сродкі прававой абароны, а менавіта: перагляд заявы «Вясны» аб дзяржаўнай рэгістрацыі, зняцце судзімасці, адэкватную кампенсацыю, уключаючы пакрыццё выплат, зробленых паводле судовых рашэнняў. Акрамя таго, Камітэт пастанавіў, што дзяржава павінна перагледзець сваё ўнутранае заканадаўства аб асацыяцыях і прывесці яго ў адпаведнасць з артыкулам 22 Пакта.




Фота: Сяргей Грыц.

Алесь Бяляцкі разглядае гэтае рашэнне Камітэта ААН як асабістую сатысфакцыю."Гэтае рашэнне КПЧ ААН я ўспрыняў як асабістае задавальненне, таму што яно даказвае маю невінаватасць, тое, пра што я сцвярджаў усе гэтыя гады – перад зняволеннем падчас суда, падчас зняволення. Камітэт па правах чалавека ААН - найвышэйшая міжнародная інстанцыя на сённяшні дзень датычна беларускага грамадства, і ў Камітэт уваходзяць юрысты з розных краінаў, таму іх ацэнка ўспрымаецца як аб'ектыўная і важкая. Таму, канешне, я задаволены тым, што сапраўды мая пазіцыя не з'яўляецца няслушнай і што міжнародная грамадскасць расцаніла гэты прысуд як несправядлівы. Такім чынам, я адчуваю сябе вельмі ўпэўнена".

Тут жа праваабаронца падкрэслівае, што рашэнне аўтарытэтнай міжнароднай інстанцыі разглядае найперш як маральную падмогу. "Канешне, рашэнні КПЧ ААН не выконваюцца беларускімі ўладамі, таму прыно-

*Працяг на ст. 3.*

## Брэсцкі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу Мікалая Чарнавуса



Мікалай Чарнавус у кардыялагічным аддзяленні Баранавіцкай гарадской бальніцы пасля затрымання міліцыяй 2 ліпеня.

Брэсцкі абласны суд 24 лістапада не задаволіў касацыйную скаргу баранавіцкага прадпрымальніка Мікалая Чарнавуса аб абароне гонару і годнасці адносна дзеянняў намесніка начальніка Баранавіцкага гарадскога аддзела ўнутраных спраў Эльдара Вільчкоўскага. Судовае паседжанне вёў суддзя Андрэй Алесенка.

– Я вельмі спадзяваўся, што абласны суд усё ж такі справядліва разбярэцца ў маёй справе і прызнае, што падпалкоўнік Эльдар Вільчкоўскі ў афіцыйных дакументах распаўсюдзіў зневажальныя і абразлівыя звесткі, што падчас затрымання ў выніку несанкцыянаванага страйку баранавіцкіх прадпрымальнікаў 2 ліпеня я сімуляваў пагаршэнне свайго стану здароўя. Навошта мне сімуляцыя, калі я з'яўляюся інвалідам 2-ой групы, і прадстаўленыя ў суд дакументы з гарадской бальніцы сведчылі, што ў мяне быў гіпертанічны крыз, а не сімуляцыя хваробы. Але абласны суд традыцыйна вырашае спрэчныя пытанні толькі на карысць дзяржаўных структур. У практыцы баранавіцкіх грамадскіх актывістаў не было справы, каб абласны суд калі-небудзь прыняў бок прадстаўніка недзяржаўных арганізацый, тым болей "арганізатара" несанкцыянаванага страйку прадпрымальнікаў, – пракаментаваў Мікалай Чарнавус.

Грамадскі актывіст пакуль не вырашыў, будзе ён скардзіцца ці не ў вышэйстаячыя судовыя інстанцыі.

Вітусь Свабодскі

**Папрасіў кнігу скаргаў і апынуўся на два дні ў міліцыі па абвінавачанні ў дробным хуліганстве**



Прававы інспектар недзяржаўнага прафсаюза РЭП з Баранавічаў Аляксандр Вайцешык зусім нечакана трапіў на 2 дні за краты Нясвіжскага РАУС. Апынуўшыся 17 лістапада ў пункце грамадскага харчавання, ён папрасіў выдаць яму кнігу скаргаў і заўваг, аднак буфетчыца і дырэктар установы адмовіліся гэта зрабіць. Гэтая кніга павінна выдавацца па-першаму патрабаванню кліента, таму Аляксандр Вайцешык выклікаў міліцыю. Паколькі ўсё паказвала, што прафсаюзны актывіст меў рацыю ў сваім патрабаванні, то капітан Радчанка стаў складаць пратакол, але нечакана яму нехта патэлефанаваў, і супрацоўнікі міліцыі адвезлі Аляксандра Вайцешыка ў Нясвіжскі РАУС. Там сітуацыя вакол кнігі скаргаў ужо кардынальна памянялася: прафсаюзнага актывіста абвінавацілі ў дробным хуліганстве па артыкулу 17.1 КаАП, нібыта ён нецэнзурна лаяўся падчас патрабавання.

У яго адразу адабралі тэлефон, і на працягу знаходжання ў ізалятары часовага ўтрымання Нясвіжскага РАУС 17 і 18 лістапада супрацоўнікі міліцыі патрабавалі прызнання віны. Толькі на трэці дзень, 19 лістапада, калі ў Нясвіжскі РАУС сталі тэлефанаваць журналісты і старшыня прафсаюза РЭП Генадзь Федыніч, то Аляксандра Вайцешыка накіравалі ў суд. Паколькі ў судзе Аляксандр Вайцешык запатрабаваў сабе абаронцу, то судовае пасяджэнне перанеслі на 28 лістапада.

Цяпер Аляксандр Вайцешык рыхтуе зварот у Следчы камітэт, каб абараніць свой гонар і дабіцца справядлівасці ў гэтай справе.

*Глеб Лушынскі*

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# КАМІТЭТ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА ААН ПРЫЗНАЎ ПАРУШЭННЕ БЕЛАРУССЮ ПРАВОЎ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

## Гістарычнае рашэнне супраць дзяржаў, якія ўшчамляюць права на свабоду асацыяцый

Парыж – Мінск, 17 лістапада 2014

У панядзелак 24 кастрычніка 2014 г. Камітэт па правах чалавека ААН прыняў гістарычнае рашэнне па справеАлеся Бяляцкага, старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH), прызнаўшы, што дзяржава Беларусь парушыла яго правы, гарантаваныя артыкуламі 9 (права на свабоду і асабістую недатыкальнасць), 14 (права на справядлівае судовае разбіральніцтва) і 22 (свабода асацыяцый) Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Гэтае рашэнне, прынятае па індывідуальным паведамленні жонкі Алеся Бяляцкага Наталлі Пінчук, якую прадстаўляе генеральны дырэктар FIDH Антуан Бернар, з'яўляецца важным пасланнем усім рэжымам, якія маніпулююць заканадаўствам для таго, каб заглушыць пратэстныя галасы, парушаючы тым самым свабоду асацыяцый.




Пасля таго, як «Вясна» была ў 2003 годзе пазбаўленая дзяржаўнай рэгістрацыі, яе заснавальнікі тройчы (у 2007 і 2009 гадах) звярталіся ў Мінюст Рэспублікі Беларусь за рэгістрацыяй, але дзяржава тройчы адмаўляла ў рэгістрацыі гэтай арганізацыі, пазбавіўшы яе такім чынам магчымасці адкрываць рахункі на сваё імя для прыцягнення фінансавання сваёй дзейнасці. Паводле высноваў Камітэта, парушэннем свабоды асацыяцыі з'яўляюцца адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі Праваабарончага цэнтра «Вясна», прынятыя толькі на падставе таго, што ў пададзеных на рэгістрацыю дакументах меліся нязначныя неадпаведнасці патрабаванням Міністэрства юстыцыі, якія маглі быць выпраўленыя пры прадастаўленні міністэрствам такой магчымасці заснавальнікам. Адмовы ў рэгістрацыі прывялі да забароны дзейнасці арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і перашкодзілі рэалізацыі яе сябрамі сваіх правоў. Прысуд Алеся Бяляцкага да працяглага тэрміну пазбаўлення волі за дзеянні, звязаныя з атрыманнем і расходаваннем сродкаў на фінансаванне дзейнасці арганізацыі, якую ён узначальвае, быў прамым следствам парушэння свабоды асацыяцыі. Пры разглядзе справы беларускія суды адхілілі доказы таго, што гэтыя сродкі прызначаліся і выкарыстоўваліся менавіта на названыя мэты, і не разглядалі справу з пункту гледжання гарантый права на свабоду асацыяцый. У гэтых умовах прыцягненне Алеся Бяляцкага да крымінальнай адказнасці Камітэт расцаніў як парушэнне гэтага права.

«Дадзенае рашэнне Камітэта па правах чалавека на аснове міжнароднага права прызнае легітымнасць дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна» і цалкам рэабілітуе яго кіраўніка Алеся Бяляцкага», - з задавальненнем адзначыў Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні «Вясны».

Камітэт па правах чалавека таксама заключыў, што ўтрыманне пад вартай Алеся Бяляцкага ў перыяд папярэдняга расследавання мела адвольны характар, паколькі рашэнне аб арышце прымалася пракурорам, а не судом, і грунтавалася толькі на цяжары прад'яўленага абвінавачаньня, а не на фактах, якія сведчалі б пра неабходнасць і мэтазгоднасць дадзенай меры.

Камітэт прызнаў, што ў працэсе крымінальнага пераследу Алеся Бяляцкага была парушаная прэзумпцыя невінаватасці, што выявілася ў інфармацыі дзяржаўных СМІ і выказваннях Прэзідэнта, якія да ўступлення ў законную сілу прысуду суда сцвярджалі аб вінаватасці Алеся Бяляцкага, а таксама ў тым, што падчас судовых пасяджэнняў яго ўтрымлівалі ў клетцы і дастаўлялі ў суд у кайданках.

У рашэнні Камітэта па правах чалавека ўказана, што Алесь Бяляцкі мае права на належныя сродкі прававой абароны, а менавіта: перагляд заявы «Вясны» аб дзяржаўнай рэгіст-

*Працяг на ст. 3.*

ПРАВААБАРОНЦЫ

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: «РАШЭННЕ КАМІТЭТА ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА ААН УСПРЫНЯЎ ЯК АСАБІСТУЮ САТЫСФАКЦЫЮ

*Працяг, пачатак на ст. 1.*
сяцьь, хутчэй, маральнае задавальненне, з'яўляюцца маральным вызначэннем. Бо наўрад ці трэба чакаць, што атрымаецца дамагчыся адмены прысуда беларускіх судоў, зыходзячы з гэтага рашэння, у сённяшняй сітуацыі, калі беларускія суды залежаць ад выканаўчай улады. У той жа час рашэнне КПЧ падкрэслівае палітычную матывацыю гэтага прысуда беларускіх судоў, што гэта не аб'ектыўны, не справядлівы прысуд, а выкліканы палітычнымі матывамі".

Рашэнне Камітэта ААН па справе Алеся Бяляцкага ўжо займела міжнародны рэзананс і ў гэтым дачыненні праваабаронца звязвае з ім пэўныя надзеі. "Што б там ні казалі беларускія ўлады ці як бы ні рабілі выгляд, што іх гэтае рашэнне не датычыцца, такія рэчы моцна б'юць па аўтарытэту "незалежнага" беларускага суда. І пры наступных разглядах падобных палітычных спраў, прынамсі хацелася б думаць, што беларускія ўлады будуць дзейнічаць больш узважліва і больш абачліва і не пераследваць праваабаронцаў, грамадскіх актывістаў за нашую дзейнасць. І другі момант – па падобных артыкулах былі асуджаныя праваабаронцы ў іншых краінах, не толькі постсавецкіх. Падобныя прысуды мы бачылі ў Азербайджане, Іране, у Расіі яны таксама намячаюцца. І гэтае рашэнне сапраўды можа паслужыць абгрунтаваннем для абароны праваабаронцаў і грамадскіх актывістаў, якія могуць аказацца ў падобных сітуацыях у іншых краінах. Прынамсі, гэта дакладны пасыл з боку Камітэта па правах чалавека ААН пра тое, што падобныя прысуды не маюць ніякіх перспектываў быць апраўданымі і прынятымі за законныя з боку шырокай міжнароднай супольнасці, якая ўключае не толькі еўрапейскія краіны, а фактычна прадстаўляе ўвесь свет. Таму, магчыма, іншыя дзяржавы будуць больш лічыцца з пагрозай непрызнання такіх палітычных прысудаў. Будзем спадзявацца, што гэта абмяжуе сваволле ўладаў аўтарытарных краінаў».

Нагадаем, Алесь Бяляцкі быў арыштаваны 4 жніўня 2011 года на падставе абвінавачвання ва "ўхіленні ад выплаты падаткаў у буйным памеры" і прысуджаны 24 лістапада 2011 года да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пасля амаль трох гадоў пазбаўлення волі праваабронца быў вызвалены 21 чэрвеня 2014 года, у першы дзень дзеяння закону аб амністыі, у якой яму адмаўлялі цягам двух гадоў запар з нагоды "шматлікіх парушэнняў рэжыму зняволення". Усе гады зняволення краіны Еўрапейскага Саюза, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі патрабавалі ад уладаў Беларусі безумоўнага вызвалення вязня сумлення. Працоўная група па адвольных затрыманнях Савета па правах чалавека ААН у жніўні 2012 года прыняла рашэнне па справе Алеся Бяляцкага, прызнаўшы яго зняволенне адвольным.

spring96.org

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# КАМІТЭТ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА ААН ПРЫЗНАЎ ПАРУШЭННЕ БЕЛАРУССЮ ПРАВОЎ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

*Працяг, пачатак на ст. 2.*
рацыі, зняцце судзімасці, адэкватную кампенсацыю, уключаючы пакрыццё выплат, зробленых паводле судовых рашэнняў. Акрамя таго, Камітэт пастанавіў, што дзяржава павінна пераглядзець сваё ўнутранае заканадаўства аб асацыяцыях і прывесці яго ў адпаведнасць з артыкулам 22 Пакта.

«Камітэт апавясціў аб сваім рашэнні дзяржаву, якая павінна даць сродкі прававой абароны, названыя Камітэтам», - заявіў Карым Лахіджы, Прэзідэнт FIDH. «Гэтае рашэнне мае найвялікшую важнасць для «Вясны», усіх беларускіх праваабарончых арганізацый і для свабоды асацыяцый ва ўсім свеце ў момант, калі шматлікія рэжымы спрабуюць заглушыць любую крытыку ў свой адрас».

Рашэнне Камітэта па гэтай справе мае прэцэдэнтны характар. Яно ясна дэманструе, што дзеянні дзяржавы, накіраваныя на перашкоды дзейнасці праваабарончай арганізацыі - ад адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі асацыяцыі да прыцягнення да адказнасці яе сяброў за ажыццяўленне імі права на асацыяцыю - з'яўляюцца парушэннем міжнароднага права. І ніякія маніпуляцыі з унутраным заканадаўствам з боку дзяржаўных органаў не хаваюць гэтага парушэння перад тварам міжнароднай супольнасці.

Нашыя арганізацыі мяркуюць, што гэтае рашэнне - аўтарытэтная крыніца прававых аргументаў супраць узмацніўшагася ціску на праваабаронцаў і іх арганізацыі.

spring96.org

## Баранавіцкія актывісты выказалі калектыўную падтрымку Алене Танкачовай



Баранавіцкія кіраўнікі і сябры грамадскіх арганізацый і палітычных партый 14 лістапада накіравалі калектыўны ліст у падтрымку старшыні Праўлення Цэнтра прававой трансфармацыі Lawtrend Алены Танкачовай.

– Мы ведаем спадарыню Алену як таленавітую праваабаронцу і шчыра падтрымліваем яе актыўную грамадзянскую пазыцыю. Вельмі шкадуем, што стан справаў у нашай краіне не дае магчымасьці працаваць тут людзям, якія імкнуцца да станоўчых пераменаў у нашым грамадстве. Спадзяемся на яе хуткае вяртанне і надыход лепшых часін, калі да нас свабодна будуць прыязджаць разумныя, адукаваныя, таленавітыя, шчырыя людзі і працаваць у вольнай Беларусі. Таму мы далучаемся да прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці краіны ў справе падтрымкі Алены Танкачовай, – паведаміла грамадская актывістка Анжаліка Камбалава.

Праваабаронца Сяргей Гоўша адзначыў, што баранавіцкія актывісты накіравалі асобны зварот на імя начальніка па грамадзянству і міграцыі МУС РБ Аляксея Бегуна з мэтаю пераглядзець рашэнне і аднавіць від на жыхарства ў Беларусі Алены Танкачовай.

Калектыўны зварот падпісалі: ПЦ "Вясна" -- Гоўша Сяргей, "ТБМ" -- Ярашэвіч Галіна, "БАЖ" -- Белы Алесь, "АГП" -- Камбалава Анжэла, Рух "За свабоду" -- Сырыца Віктар, "БХД" -- Малашчанка Таццяна, "БСДП" -- Болбат Вячаслаў.

Вітусь Свабодскі

## У Баранавічах адзначылі 77-я ўгодкі “крыштальнай ночы” беларускай культуры



У Баранавічах грамадскія актывісты і праваабаронцы адзначылі адну з самых трагічных старонак нашай гісторыі: 77-я ўгодкі “крыштальнай ночы” беларускай культуры.

Неабыякавыя да сваёй гісторыі людзі сабраліся каля Крыжа ахвярам сталінскіх рэпрэсій 1939-1953 гадоў (скрыжаванне вуліц Смаленскай і Пірагова), прыбралі тэрыторыю парка ад смецця, усклалі кветкі, запалілі свечкі. Затым яны нагадалі імёны тых, хто загінуў у гэтую трагічную ноч, прачыталі малітву за ўсіх памёрлых і загінуўшых ад рэпрэсій людзей.

– Я планавала 30 кастрычніка правесці пікет, каб нагадаць нашым грамадзянам, што ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года супрацоўнікі НКУС расстралялі ў мінскай турме 22 беларускіх пісьменнікаў і больш 80 прадстаўнікоў інтэлігенцыі нашай краіны. Гэтым сціплым пікетам я хацела ўшанаваць памяць нявінна забітых беларускіх дзеячоў культуры ў 1937 годзе, каб такія трагічныя падзеі ў нашай гісторыі больш ніколі не паўтарыліся. Аднак Баранавіцкі гарвыканкам забараніў мне адзіночны пікет у дазволеным месцы старога парку горада, таму ўшанаванне адбылося ў іншым фармаце, – пракаментавала грамадская актывістка Анжаліка Камбалава.

Глеб Лушынскі

ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

## БАЦЬКІ БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ ДЗЯЎЧЫНАК ПРОСЯЦЬ МІНІСТРА АДУКАЦЫІ ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ІХ НАВУЧАННЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

Бацькі дзяцей былога адзінага беларускамоўнага класа ў Баранавічах Таццяна і Алег Малашчанкі, а таксама Антаніна і Васіль Філіпчыкі накіравалі ліст-зварот міністру адукацыі Сяргею Міскевічу, у якім адзначылі, што іх дзеці маюць праблему з працягам навучання на роднай мове.

У лісце паведамляецца, што ў гэтым годзе іх дзеці Ядзвіга Малашчанка і Аліса Філіпчык скончылі адзіны ў горадзе чацвёрты беларускамоўны клас СШ № 14 і ў сувязі з пераменай месца жыхарства падалі заяву на навучанне па-беларуску ў пяты клас гімназіі № 4. Але гарадскія і школьныя чыноўнікі адмовіліся стварыць беларускамоўны клас.



Ядзвіга Малашчанка і Аліса Філіпчык – вучаніцы 5 класа гімназіі № 4 горада Баранавічы.

– Канстытуцыя, а таксама закон аб роўнасці дзвюх дзяржаўных моваў і Кодекс РБ аб адукацыі забяспечваюць нам права выбару мовы адукацыі ў любой навучальнай установе краіны. Таму незразумела, чаму мы амаль 5 месяцаў павінны працягваць змаганне з дзяржаўнымі і школьнымі чыноўнікамі. Усе адмоўныя адказы на нашыя звароты аб жаданні вучыцца па-беларуску нам пішуцца быццам нібыта па нейчыей ўказцы і адной рукой. Спачатку чыноўнікі спасылаліся на сярэднюю напаўняльнасць класаў, падвышаючы кожны раз лічбу, затым – на выніку сумоўя з іншымі бацькамі, цяпер – на стварэнне нейкіх “спрыяльных умоў для ўдзелу ў пазакласных мерапрыемствах… якія прадугледжваюць стварэнне камунікацыі, асяроддзя, зносін на беларускай мове… ў акрэсленых рамках”. Мы просім адукацыі па-беларуску, а нам прапануюць нейкую “камунікацыю на беларускай мове” ва ўмовах “русского мира”. У выніку бюракратычная цяганіна доўжыцца, а навучання на роднай мове няма, таму мы і звярнуліся да міністра адукацыі, – паведаміла Таццяна Малашчанка.

Такім чынам, бацькі беларускамоўных дзяўчынак настойваюць на выкананні іх законных патрабаванняў і просяць міністра адукацыі забяспечыць навучанне Алісы Філіпчык і Ядзвігі Малашчанкі на дзяржаўнай беларускай мове ў гімназіі №4 г. Баранавічы.

Глеб Лушынскі

ПЕНІТЭНЦАРНАЯ СІСТЭМА

## АЛЯКСАНДР ВАЙЦЕШЫК СКАРДЗІЦЦА НА ЎМОВЫ ЎТРЫМАННЯ Ў НЯСВІЖСКІМ ІЗАЛЯТАРЫ ЧАСОВАГА ЎТРЫМАННЯ

Актывіст прафсаюза РЭП Аляксандр Вайцешык, які адбыў 2-х дзённае затрыманне ў нясвіжскай міліцыі за просьбу выдаць яму кнігу скаргаў і прапаноў у пункце грамадскага харчавання г. Нясвіжа, напісаў скаргу ў Генеральную пракуратуру на ўмовы ўтрымання яго пад вартай у камеры № 4 і просіць зачыніць Ізалятар часовага ўтрымання Нясвіжскага РАУС.

Аляксандр Вайцешык скардзіцца, што ў камеры было вельмі холадна, асабліва ноччу, з-за таго, што батарэя не грэла. Па яго ных адчуваннях, тэмпература ўдзень складала +12-14 градусаў, а ноччу каля 10. Ад холаду не было сна і немагчыма было сагрэцца. Вентыляцыя ў камеры таксама не працавала, і ад дыма курцоў было вельмі цяжка дыхаць. Таму ў яго з'явіўся моцны кашаль, боль у спіне і паясніцы. У скарзе адзначаецца, што ў камеры № 4 няма туалета, а сукамернікі карысталіся адкрытым вядром, якое стаяла ў брудным куце. Смурод у камеры быў настолькі вялікі, што ў такіх умовах немагчыма адчуваць сябе чалавекам. І ў такіх антычалавечых і антысанітарных умовах затрыманыя павінны былі снедаць, абедаць, вячэраць і ноччу спаць. У прыбіральню, адзначае Аляксандр Вайцешык, сукамернікаў не выводзілі з-за недахопу міліцыянераў.

У камеры № 4 не было вады для піцця, недастаткова дзённага і электрычнага святла, доктар ні разу не праводзіў агляду стану затрыманых, патэлефанаваць сям'і ці родзічам не ўяўлялася магчымым, на шпацыр затрыманых таксама ніхто не выводзіў.

Аляксандр Вайцешык лічыць, што ўмовы яго ўтрымання ў Нясвіжскім РАУС з 17 па 19 лістапада ў сукупнасці парушаюць яго правы, прадугледжаныя арт. 25 Канстытуцыі РБ, арт. 7 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, арт. 18.3 ПВКаАП РБ і Правіламі ўнутранага распарадку спецыяльных установаў органаў унутраных спраў, якія выконваюць адміністрацыйныя спагнанні ў выглядзе адміністрацыйнага арышту, зацверджаныя пастановай МУС РБ ад 08.08.2007 года № 194.

А. Вайцешык просіць Генеральную пракуратуру:

1. Правесці пракурорскую праверку па ўказаных фактах з абавязковым наведваннем Ізалятара часовага ўтрымання па адрасе: г. Нясвіж, вул. Савецкая, д.30 на прадмет выканання правоў чалавека і дзеючага заканадаўства пры ажыццяўленні дзейнасці спецыяльнай установы.
2. Прызнаць умовы ўтрымання ў ІЧУ Нясвіжскага РАУС жорсткімі, бесчалавечнымі і зняважаючымі чалавечую годнасць.
3. Зачыніць Ізалятар часовага ўтрымання Нясвіжскага РАУС да таго часу, пакуль не будуць выкананыя неабходныя ўмовы ўтрымання ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.
4. Пакараць вінаватых адказных асоб.

Вітусь Свабодскі

**“ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК”** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы – звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў.
ВЕСНІК ПРАВАБАРОНЧЫ